# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА

№2(6)
ЛЮТЫ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ




## ГРОДЗЕНЦЫ, ЯНЫ І Ў МІНСКУ ГРОДЗЕНЦЫ

17-18 лютага ў Мінску адбылося паседжанне за "круглым сталом" на тэму "Краязнаўчы рух на Беларусі – гісторыя развіцця, праблемы і перспектывы". Арганізатарам мерапрыемства выступіла Выканаўчае бюро Асамблеі няўрадавых арганізацый краіны.

Чынны ўдзел у рабоце паседжання бралі прадстаўнікі Гродзеншчыны. У прыватнасці, з дакладамі "Праца з дзецьмі і моладдзю", "Супрацоўніцтва музеяў і краязнаўчых грамадскіх арганізацый", "Літаратурнае краязнаўства" выступілі адпаведна старшыня Гродзенскага Школьнага краязнаўчага таварыства А. Госцеў, дырэктар Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея Т.Вяршыцкая, прафесар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы А.Пяткевіч. Актыўны ўдзел у абмеркаванні пытанняў парадку дня прынялі таксама старшыня філіі ТБМ з Ліды С. Суднік, супрацоўнік часопіса "Лідскі летапісец" А. Савук.

Адбыўся актыўны абмен доследам па тэмах "Метады даследавання рэгіёнаў", "Супольная праца краязнаўчых арганізацый і давядзенне вынікаў да грамадства", "Агульнанацыянальны краязнаўчы праект: сітуацыя, сутнасць і вынік".

Удзельнікі паседжання за "круглым сталом" утварылі Асацыяцыю краязнаўчых арганізацый Асамблеі.

## А ШТО ЧАКАЕ ЗАЎТРА?

20 лютага адбылося паседжанне рады Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Яе старшыня прафесар Андрэй Майсяёнак падкрэсліў, што наспеў час параіцца, вызначыць асноўныя кірункі працы. Выказана прапанова стварыць гарадское краязнаўчае таварыства.

Доктар гістарычных навук Святлана Куль-Сяльвестрава паведаміла пра дзейнасць лабараторыі рэгіянальных праблем культуры пры Гродзенскім дзяржуніверсітэце імя Янкі Купалы. За год работы надрукавана каля 30 артыкулаў, дзве манаграфіі. Прадстаўнікі лабараторыі прымалі ўдзел у міжнародных канферэнцыях, рэалізацыі важных праграм…

Выступоўца адзначыла, што краязнаўчая работа павінна быць накіравана ў іншае рэчышча – турызм. Неабходна распрацоўваць маршруты па гістарычных месцах, ствараць навукова-вытворчыя комплексы, навучыцца зарабляць грошы.

У абмеркаванні пытанняў парадку дня прынялі ўдзел прафесар І. Розенфельд, кандыдат гістарычных навук С.Піваварчык, пісьменнік А.Пяткевіч, старшыня Гродзенскага Школьнага краязнаўчага таварыства А.Госцеў, дырэктар абласной бібліятэкі Л. Мальцава, прадстаўнік аддзела культуры аблвыканкама Т. Сідарэвіч і іншыя.

**Ул. Інф.**



## ЖЫЎ ТАКІ ЧАЛАВЕК

Годна адзначылі маладзечанцы 65-ю гадавіну выдатнага краязнаўцы, гісторыка, пісьменніка Генадзя Каханоўскага (1936-1994). Менавіта яму лёс наканаваў высока ўзняць паходню беларускага краязнаўства, гвалтоўна прытушаную ў 30-я гады XX-га стагоддзя.

Ён разгадаў не адну таямніцу гісторыі, адкрыў землякам, усёй Беларусі шмат славутых імёнаў і мясцінаў, нанёс на літаратурную карту сёння добра вядомую багдановічаву Ракуцёўшчыну.

Пра ўсё гэта ішла гаворка на вечарыне "Трыпціх памяці", што адбылася 31 студзеня 2001 года ў Маладзечанскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М.Багдановіча. Арыгінальны сцэнарый імпрэзы, падрыхтаваны Ларысай Сысун, складаўся з трох частак: "Зямля бацькоў дала мне правa", "Браму скарбаў сваіх адчыняю", "І падала зерне ў раллю".

Гучалі вершы, прысвечаныя знакамітаму земляку, урыўкі з яго краязнаўчых прац, класічная і народная музыка ў выкананні вучняў музычнай школы, ансамбля "Спадчына". З успамінамі выступілі айцец Іаан Міцько, сябар і калега Генадзя Каханоўскага па Скарынаўскаму цэнтру Адам Мальдзіс, гісторык Віталь Скалабан.

**На здымку: Генадзь Каханоўскі ў час сустрэчы з гродзенскімі краязнаўцамі. 1988 г.**

**Янка Мяцеліца**
**г. Мінск**

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# МУЗЕЙ — ПАКАЗЧЫК КУЛЬТУРЫ НАЦЫІ

**Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею ў снежні мінулага года споўнілася 80 гадоў. У час правядзення ўрачыстай вечарыны быў узгаданы яго шлях станаўлення, не забыты прозвішчы асобаў, якія прыклалі намаганні для стварэння аднаго з лепшых сёння музеяў краіны. Сваімі думкамі дзеліцца дырэктар гісторыка-археалагічнага музея Алена САЛАЎЁВА.**

— Часам ёсць неабходнасць азірнуцца назад, перш, чым зрабіць чарговы крок наперад. Нашаму музею, лічу, пашанцавала, што ў вытокаў яго стварэння стаяў апантаны гродзенскі краязнаўца і археолаг Юзаф Ядкоўскі. Сабраныя ім экспанаты склалі аснову экспазіцыі, адкрытай 9 снежня 1920 года. Гэты чалавек дамогся, каб музей размясціўся ў Старым замку. Друкаваў шмат артыкулаў аб гісторыі Гродна. Гэта быў выдатны краязнаўца з дыпломам прафесійнага археолага.

Нам цяпер скардзіцца нібыта сорамна. У 1991 годзе атрымалі памяшканні ў Новым замку. Агульная плошча музея дасягнула 5486 квадратных метраў, у тым ліку экспазіцыйная – 2387. Маем нармальныя ўмовы для захавання фондаў.

Сярод апошніх набыткаў – сапраўдны слуцкі пояс XVIII стагоддзя. Іх наогул лічаныя адзінкі, прычым, дрэнна захаваных. Нам пашчасціла займець экземпляр з сярэбраным вышываннем, амаль не крануты часам. Таксама папоўнілі фонды сімфаніёнам і мэбляй XVIII стагоддзя, а таксама габеленам XIX стагоддзя.

**— У людзей звычайна пра музеі ўяўленне як пра нешта стэрыльнае, нетаропкае, застылае. Адным словам, соннае царства…**

— Каб пераканацца, што гэта не так, трэба папросту хоць раз завітаць да нас на выстаўку, папрысутнічаць на паседжаннях, прысвечаных гістарычнай даце ці канкрэтнай асобе. Прычым, заўважу, многія мерапрыемствы праводзяць вядомыя ў Гродне людзі. Напрыклад, вясной мінулага года шмат ўдзельнікаў сабраў сход да 90-годдзя з дня нараджэння акадэміка астранаўтыкі Барыса Кіта.

У 2000 годзе мы арганізавалі сем выставак, выкарыстоўваючы экспанаты ўласных фондаў. А яшчэ пяць выставак былі прывазнымі, напрыклад, японская “Змеі і валчкі”, “Кітайскі народны касцюм” і інш. Дарэчы, пасольства Кітая ў Беларусі ўжо тройчы праводзіла свае выстаўкі ў Гродне.

Многа людзей наведала выстаўку “Зброя мінулых стагоддзяў”. Выстаўкі цыкла “Беларускае мастацтва” знаёмілі наведвальнікаў з работамі мастака Д.Іваноўскага, жывапісцаў Ю.Рацько, Л. Сярожа, каваля па металу Ю.Круша, габеленамі і батыкам Н.Пілюзінай, фотаработамі А.Ласмінскага.

Традыцыйнымі сталі перасоўныя выстаўкі, якія дэманструюцца ў школах, на прадпрыемствах. Былі падрыхтаваны экспазіцыі на тэмы “Птушкі нашых лясоў”, “Веснавыя галасы”, “Гуканне вясны”, “Народнае мастацтва і побыт”, “Гродзенскія памятныя мясціны”, “Ад Днястра да Эльбы”, прысвечаная 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

**— Аднак музеі – гэта яшчэ і навукова-даследчая работа, асветніцкая, метадычная, фондавая праца, рэдакцыйна-выдавецкая дзейнасць, бібліятэчная справа. Нарэшце, збор экспанатаў, выезды на месца магчымай цікавай знаходкі…**

— Тут якраз найбольш праяўляецца наша ўзаемадзеянне з краязнаўцамі. Трымаем сувязь з краязнаўчымі грамадскімі арганізацыямі.

Экспанаты, сабраныя за апошнія дзесяць гадоў, дазволілі нашаму музею атрымаць першую катэгорыю па колькасці фондавых запасаў. Па гэтаму паказчыку мы трэція ў рэспубліцы. А вось па колькасці музеяў у вобласці – апошнія, маем толькі 15, у той час калі на Віцебшчыне іх 30.



Стары замак памятае Вялікага князя ВКЛ Вітаўта, Свідрыгайлу, Святога Казіміра Ягелончыка, каралёў Стэфана Баторыя і Станіслава Панятоўскага...
Цяпер тут месціцца Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.

**— Вы нагадалі пра выдавецкую дзейнасць музея. Чые працы змяшчаюцца ў брашурах і кнігах: штатных супрацоўнікаў ці шырокага актыву?**

— Калі 27 гадоў назад я прыйшла на работу ў музей у нас было толькі пяць аддзелаў. Сёння маем 12. Кажу гэта для таго, каб зразумець, што ёсць каму з нашых 37 навуковых супрацоўнікаў весці даследаванні, навукова абгрунтоўваць экспанаты. Але ў Гродне і вобласці шмат прызнаных краязнаўцаў. Іх матэрыялы таксама змяшчаем у зборніку “Краязнаўчыя запіскі”. Такіх выпускаў здзейснена ўжо пяць. Для дзяцей выпусцілі некалькі пазнавальна-навучальных кніжак.

**Інтэрв'ю правёў**
**Антон Лабовіч**

**ДА ЎВАГІ АМАТАРАЎ СТВАРЭННЯ ШКОЛЬНЫХ МУЗЕЯЎ!**

**Гарадзенская краязнаўчая асацыяцыя рыхтуе семінар для настаўнікаў і выкладчыкаў навучальных устаноў, у якіх міркуецца стварыць школьныя музеі ці музейныя экспазіцыі, прысвечаныя славутым землякам.**

**Семінар плануецца правесці ў Мастах. Будзе праведзены конкурс экспазіцыйных планаў, і фундатары заахвоцяць лепшыя тэхнічнымі прыладамі і матэрыяламі.**

**Прадугледжваецца наведанне Гудзевіцкага гісторыка-этнаграфічнага музея знакамітага Алеся Белакоза.**

**Зацікаўленых, па ўзгадненню з кіраўніцтвам вучэбных устаноў адносна прадстаўлення адпаведных плошчаў, просім звяртацца на адрас “Краязнаўчай газеты” (230023, г. Гродна, п\с 22).**

■ КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ

# ЛІДА ЗГУРТАВАЛА КРАЯЗНАЎЦАЎ

5 лютага ў Лідзе Беларускае краязнаўчае таварыства (БКТ) імя Тодара Нарбута з цэнтрам у Гродне правяла адукацыйны семінар, удзел у якім прыняло 103 актывіста пошукавай работы амаль з усіх раёнаў – настаўнікаў, пенсіянераў, школьнікаў, гісторыкаў, інжынераў, прадстаўнікоў моладзевых грамадскіх арганізацый і суполак нацыянальных меншасцяў, фотамайстроў, рэдактараў мясцовых газет і бюлетэняў краязнаўчага кірунку.

Намеснік дырэктара Скарынаўскага цэнтра (Мінск) Віталь Скалабан паведаміў аб сучасным стане беларускага краязнаўчага руху. Было адзначана, што за апошнія дзесяць гадоў назіраецца сапраўдны ўздым гэтай работы.

Свае думкі ад развіцці краязнаўства на Гродзеншчыне выказалі старшыня абласной краязнаўчай Асацыяцыі, прафесар Андрэй Майсяёнак, прафесары Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Сяргей Габрусевіч і Аляксей Пяткевіч, метадыст ліцэя № 1 горада Гродна Алесь Госцеў.

Аб пашырэнні краязнаўчай дзейнасці ў вобласці гаварылі Аляксандр Калышка, Ася Савулкіна, Станіслаў Суднік, Леон Лаўрыш, Ігар Пешахонаў, Наталля Тыванюк, Антон Савук, Мікалай Гайба, Лявон Анацка, Юрый Корыкаў, Уладзімір Хільмановіч, Валерый Сліўкін і інш.

Былі даабраны новыя сябры Рады і ўправы Беларускай краязнаўчай асацыяцыі.

Удзельнікі семінара з Лідчыны правялі ўстаноўчы сход па стварэнню Лідскага краязнаўчага таварыства як паўнапраўнага сябра БКА. Старшынёй абраны кандыдат геаграфічных навук Валерый Сліўкін.

**Антон Лабовіч**

# ПАРАІМСЯ, І ЗА РАБОТУ!

Сённяшняя сустрэча не проста даніна модзе. І мы не сабраліся, каб пагаварыць і раз'ехацца. У такім разе краязнаўства як руху наогул не будзе. Абмеркавання нашых надзённых праблемаў патрабуе час. Неабходна вызначыць асноўныя кірункі дзейнасці. Прааналізаваць дасягненні і няўдачы. Маю перакананасць, што Беларускае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута працуе. Пра гэта сведчыць стварэнне Іўеўскай раённай арганізацыі. Думаецца, што сёння будзе ўтворана і Лідская гарадская. Яшчэ адно дасягненне: мы пачалі рэгулярны, штомесячны, выпуск бюлетэня "Краязнаўчая газета". Адразу з'явіліся аўтары. Неўзабаве падвядзём вынікі конкурсаў "Чалавек ХХ-га стагоддзя і чалавек тысячагоддзя".

А з чаго пачыналі? Дазвольце нагадаць, што ўстаноўчы сход БКТ імя Тодара Нарбута адбыўся 30 чэрвеня 1998 года. Рада таварыства працавала ў складзе пяці асобаў – прафесара Сяргея Габрусевіча, доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча, вядомых краязнаўцаў Уладзіміра Хільмановіча і Алеся Госцева (усе з Гродна), Станіслава Судніка (Ліда). Старшынёй БКТ зацвердзілі прафесара Гродзенскага універсітэта С.А.Габрусевіча.

На працягу 1998-2000 гадоў нямала зроблена ў вывучэнні гістарычных, культуралагічных і краязнаўчых праблемаў. Цяжкасці з рэгістрацыяй БКТ імя Т.Нарбута зможам пераадолець, калі сумесна зробім праекты на фінансаванне з адпаведных фондаў, мабілізуем унутраныя рэзервы.

Неабходна асвятляць ў рэгіянальным друку здабыткі і праблемы краязнаўства як фактара грамадскага жыцця, далучэння да вырашэння праблем Еўрарэгіёна «Нёман».

Наспела неадкладная размова сяброў Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута аб першачарговых задачах, бачанні арганізацыйных праблем.

**Андрэй Майсяёнак,**
**старшыня абласной краязнаўчай асацыяцыі,**
**прафесар.**




Тут мінулае нібыта задрамала,
І дзень сягонняшні – не госць.

# У НАС ТУТ СВАЕ КАРАНІ

Польскамоўная газета "Зямля лідская" выдавалася яшчэ да вайны. Мы аднавілі яе выхад у 1991 годзе. Краязнаўчыя матэрыялы займаюць значнае месца на старонках, бо наша выданне мае акрэслены культурнаасветны кірунак.

Часцяком публікацыі дазваляюць вярнуць памяць пра забытых асобаў мінулага часу. Гэтыя людзі шмат зрабілі для сваёй зямлі, маюць права на няўміручасць. Гісторыя іх жыцця павучальная і цікавая.

Мы імкнемся трымацца ўласнага пункту гледжання. Заўсёды спасылаемся на крыніцы інфармацыі. Гісторыя Лідчыны багата гісторыяграфіяй. Падзеі мінулага паказваем праз успаміны непасрэдных удзельнікаў, напрыклад, барацьбітоў Арміі Краёвай, вядомых людзей рэгіёна. Сваім дасягненнем лічым выданне кніг, прысвечаных землякам – Нарбуту і Дамейку. Рыхтуем чарговыя рукапісы.

Рэдакцыя газеты вядзе актыўны пошук таленавітых польскамоўных аўтараў. Паэт Міхаіл Валасовіч жыве ў Беняконях. У Польшчы выдадзена некалькі яго зборнікаў. А вось на радзіме гэтае імя амаль невядома.

**Аляксандр Калышка,**
**рэдактар газеты "Зямля Лідская".**

(Працяг на 4-й стар.)

# НЯМА Ў КРАЯЗНАЎСТВЕ "ДРОБЯЗЕЙ"

**(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)**

Цяпер, як гаворыцца, у поўны рост паўстаюць праблемы беларускага, у тым ліку і мясцовага краязнаўства. Яно ў кожны гістарычны перыяд мае сваю спецыфіку і дэтэрмінанты. Савецкая гістарычная навука была схематычнай. Кнігі па гісторыі мелі агульны недахоп – павярхоўнасць адлюстравання фактаў і падачу іх у патрэбным, я сказаў бы, палітычным рэчышчы. Справядлівая гісторыя можа грунтавацца толькі на мясцовым рэальным матэрыяле.

Рэгіянальнае краязнаўства – частка агульна-беларускага. Па-сутнасці, апошнія 400 гадоў, думаю, такога разумення не было. Кропка была пастаўлена яшчэ ў час скасавання Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы. Эпоха Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, СССР (і Беларускай ССР ў якасці яе адзінкі) не спрыяла разгортванню ўласна беларускага па сутнасці і па духу, нацыянальнага па форме краязнаўства. БССР не адпавядала сэнсу выслоўя "самастойная дзяржава".

Былыя партыйныя кіраўнікі Беларусі больш клапаціліся аб сацыяльна-эканамічных і палітычных паказчыках рэспублікі. Яны не звярталі ўвагі на мову, культуру, звычаі, традыцыі народа. Краязнаўства было абмежавана старымі прыладамі працы, прадметамі хатняй гаспадаркі ды лапцямі ў школьных музеях. Гэткі ўзор глухой, Богам забытай старонкі, без уласнай гісторыі, навукоўцаў, старажытнасці…

Дзесяць гадоў мы будуем новую незалежную Беларусь. Пабудуем сапраўдную ўласную дзяржаву, будзем мець і моцную эканоміку, і адроджанае краязнаўства ў шырокім сэнсе гэтага слова. Лічу, што нам тут на месцы трэба вывучаць ўсё, што спадарожнічала жыццю нашых продкаў – гаспадарку, традыцыі, прылады гаспадарання, вопратку, мову, народныя гульні, казкі і паданні і г.д.

Кожны раён вобласці не мае падабенства. Паўсюдна адчуваецца розніца. Гэта важна, зафіксаваць "дробязі", бо без іх няма адчування сапраўднасці мінулага. Вобразна кажучы, мы павінны адчуваць смак крупніку, згатаванага сто, дзвесце, трыста гадоў назад; пах раллі руплівага продка, цеплыню вопраткі чалавека, скажам, 17-га стагоддзя.

Трэба спяшацца вывучыць і занатаваць пакінутае нам лёсам. Паглядзіце, як імкліва знікаюць "неперспектыўныя" вёскі, цэлыя паселішчы, хутары. Яны адыходзяць у нябыт разам з людзьмі. А гэта жывая памяць, сувязь пакаленняў.

Калі Беларусь узмацнее як дзяржава, трэба будзе забяспечыць надзейную прававую структуру краіны, у тым ліку і звычаёвае права. Без гэтага сур'ёзна займацца краязнаўствам нельга. СССР разваліўся, бо не меў прававых нормаў, у т.л. пабудаваных на дасягненнях не толькі славянства. Штучна ўтвораныя нежыццяздольныя падпоркі разбурыліся пры першым подыху нацыянальнага абуджэння самастойных нацый, якія не пажадалі быць бязлікім "проста савецкім народам". Законы не мелі агульнага з рэальным жыццём. Трэба ўлічваць асаблівасці кожнага краю, геаграфічнай і этнічнай тэрыторыі.

Савецкая ўлада набудавала шмат панельных дзевяціэтажак у тундры. Аднак загнаць у халодныя кватэры людзей не змагла. Не можа жыць тунгус ці хантымансіец, як еўрапеец. Не тая культура, іншыя традыцыі. Гэта трэба было заранёў вывучыць, а не закопваць дарэмна грошы ў адвечную мерзлату.

Кажу гэта для таго, каб падкрэсліць, што краязнаўства – жыццё народа, яго бытавое, матэрыяльнае, культурнае, традыцыйнае рэчышча. Таму я за тое, каб краязнаўствам займаліся людзі розных прафесій, лірыкі і фізікі. Кожны са свайго пункту гледзішча прыкмеціць адметнае і адзінае.

**Сяргей Габрусевіч,**
**старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т. Нарбута, прафесар.**

# ГАЗЕТА ДОБРА, ІНТЭРНЭТ ЛЕПШ

Краязнаўчыя здабыткі Лідчыны настолькі багатыя і разнастайныя, што выклікаюць цікавасць многіх даследчыкаў, вучоных, аматараў гісторыі ў многіх краінах. Пагэтаму ў Інтэрнэце мы адкрылі свае шэсць сайтаў. Маем нават яўрэйскую старонку, праўда, на беларускай мове. Нашы матэрыялы за две месяцы паспела паглядзець амаль 200 чалавек.

Актыўна запісваем успаміны жыхароў рэгіёна. Назапасілі шмат фотаздымкаў.

**Леон Лаўрыш,**
**старшыня таварыства "Павет".**

# ПЯШКОМ УСЕ ВЁСКІ НЕ АБЫЙДЗЕШ…

У свой час мне даручылі кіраваць этнаграфічным школьным гуртком. Я працую псіхолагам, таму адразу было цяжка ўключыцца ў новую дзейнасць. Напачатку падрыхтавалі тэатралізаванае свята "Калядкі". Стараліся, усё як ёсць пераняць з навуковых кніг. А мясцовыя жыхары не зразумелі маіх юных энтузіястаў. Тады я зразумела, што трэба карыстацца мясцовым матэрыялам, тутэйшымі традыцыямі. Бо на гэтай зямлі нават беларуская мова гучыць інакш.

Каб гэта зразумець, трэба падарожнічаць. З часам наш краязнаўчы музей папоўніўся новымі матэрыяламі, у зборы якіх ўдзельнічала і я. Шмат запісалі ўспамінаў пра вайну, распытвалі вядомых людзей, збіралі мясцовы фальклор, фатаграфавалі. У музеі падрыхтавалі новую экспазіцыю "Сялянская хата".

Свае пошукі вядзём у час пешых ці веласіпедных вандровак. Калі шлях блізкі, то яшчэ нічога. Аднак колькі цікавага застаецца па-за нашай увагай! Там, куды мы не можам дабрацца без транспарту…

**Наталля Тыванюк,**
**настаўніца.**
**в. Дзітва**

**(Працяг на 5-й стар.)**

# ДОБРЫ ЛІТАРАТАР ЗАЎСЁДЫ КРАЯЗНАЎЦА

(Працяг. Пачатак на 3-й - 4-й стар.)

Мне думаецца, што беларускага краязнаўства як навуковай сістэмы не існуе. У гэтым папросту не зацікаўлена дзяржава. Гісторыя ж асэнсаванага краязнаўства ў нашай краіне пачынаецца дзесьці з XIX-га стагоддзя. Краязнаўства – гэта самаіндэфікацыя народа. Для чужой улады яно непатрэбнае і небяспечнае. Бо дае людзям магчымасць спазнаць уласную гісторыю, культуру, традыцыі. Прасцей, пачувацца людзьмі, станавіцца грамадзянамі.

У нас краязнаўствам па вялікаму рахунку да гэтага часу займаюцца самадзейныя аматары. І за гэта ім трэба падзякаваць. Не так проста вывучаць сваю мясцовасць, аб'екты дойлідцтва, жыццё і дзейнасць асобаў, якія жылі тут, альбо нарадзіліся і прынеслі славу і гонар іншай краіне.

Што казаць пра даўнейшае! Мы нават не ведаем шмат чаго з жыцця Янкі Купалы. У школах і ВНУ вывучалі яго творчасць, але не асобу. Сам жа гэты чалавек быў надзвычай сціплы, самарэкламай не займаўся. Цяпер даводзіцца па крупінках збіраць звесткі пра Песняра. Дзеячаў Заходняй Беларусі таксама не ведаем як след. Гэта трагедыя нацыі. Таму, лічу, што надзвычай важна запісваць успаміны людзей, якія ведалі ці ведаюць выбітную асобу.

Літаратурнае краязнаўства вывучае факты і падзеі канкрэтнай мясцовасці. Зусім не абавязкова, каб збор матэрыялаў вёўся па нейкай вялікай асобе. Хіба творчасць тутэйшага творчага чалавека не заслугоўвае увагі? Мясцовы аўтар, які друкуецца напачатку ў раённай газеце, патрабуе вывучэння нароўні з масцітым майстрам мастацкага слова. Вялікія людзі, як сведчыць гісторыя, пачынаюць свой жыццёвы і творчы шлях у малых гарадках. Гэта потым таленты становяцца мэтрамі. А напачатку здабываюць свой хлеб, як і ўсе мы. Трэба спрабаваць убачыць у пачаткоўцу будучага паэта, празаіка, драматурга. Вывучаць яго жыццё, у тым ліку і прыватнае, лёс, біяграфію.

Вось у Беластоку выйшла з друку кніга "Бежанства". Яе склалі ўспаміны людзей, якіх ў 1914 годзе сотнямі тысяч гналі ўглыб Расіі, нібыта ратуючы ад нямецкага рабства. Хіба ў нас гэтай з'явы не было? Аднак ніхто не парупіўся выкласці на паперы боль і смутак беларусаў на чужбіне, іх вяртанне на папялішчы, аднаўленне парушанага жыцця. А шкада, бо масавы матэрыял важны для пазнання псіхалогіі і характару цэлага народа.

Прыклад, як трэба дзейнічаць, падае наш знакаміты Алесь Белакоз, чалавек вялікай волі і энергіі. Ён здолеў арганізаваць не адно пакаленне вучняў школы, і тыя пісалі сотні пісьмаў вартым увагі постацям. Людзі адгукаліся. Таму ў Гудзевіцкім музеі сабрана сотні лістоў, у якіх аўтары распавядаюць самі пра сябе, выказваюць сваё бачанне свету. Гэта неацэнны матэрыял для будучых жыхароў Гродзеншчыны, і не толькі.

Кожны значны пісьменнік па натуры краязнаўца. У сваім творы ён выкладае ў вобразах блізкае і роднае яму наваколле. Героі носяць прыкметы жыхароў тутэйшых мясцін, маюць мясцовую гаворку, характэрныя рысы. Нашчадкі, дзякуючы грунтоўным і глыбокім творам, зразумеюць нашы праблемы, прасякнуцца духам нашага часу. Творца як той кандэнсатар назапашвае моц духу свайго народа, пачуцці людзей і выкладае гэта на паперы, адлюстроўвае ў карцінах ці скульптуры.

Краязнаўчыя матэрыялы патрэбны ўсім, але найперш да іх цягнуцца творчыя асобы. Менавіта такімі я бачу людзей, якія церпяліва збіраюць сведчанні мінулага, і без шкадавання даюць гэтыя звесткі для карыстання шырокай грамадскасці.

**Аляксей Пяткевіч,**
**прафесар ГрДУ імя Янкі Купалы.**



**Валерый Сліўкін - старшыня Лідскага краязнаўчага таварыства**

# ТУТ МАГІЛЫ НАШЫХ ПРОДКАЎ

Калісьці тэрыторыя Заходняй Беларусі ўваходзіла ў так званую рысу аседласці яўрэяў. Трагічная гісторыя майго нараду прывяла да таго, што цяпер у Лідзе яўрэяў у дзесяць разоў менш, чым у 1914 годзе. Дагэтуль шмат невядомых старонак Халакосту.

У 1994 годзе было створана мемарыяльна-культурнае аб'яднанне яўрэяў Ліды. Вырашылі прыкласці агульныя намаганні, каб адрадзіць наколькі магчыма культуру і традыцыі нашых продкаў, захаваць памяць аб ахвярах фашысцкага генацыду. Каля Ліды пахавана 6.700 чалавек, знішчаных гітлераўцамі. Адзін грамадзянін паведаміў, што ведае яшчэ адно месца, дзе былі пакараны смерцю тры тысячы яўрэяў. Кажа, што цяпер там грамадзяне бульбу вырошчваюць…

Мы вядзём актыўную перапіску з былымі жыхарамі Ліды, якія жывуць у розных краінах свету. Яшчэ ў 1970 годзе ў Ізраілі былыя лідчукі напісалі кнігу "Летапіс Ліды". Тут сабраны гістарычны матэрыял аб жыцці яўрэяў горада, пачынаючы з 17-га стагоддзя.

Вынікі сваёй пошукавай работы імкнемся данесці да грамадскасці. Нас запрашаюць на мясцовае радыё. Папулярнасцю карыстаецца ансамбль "Шалом", які адраджае яўрэйскую музыку.

**Ася Савукіна,**
**старшыня Лідскага яўрэйскага аб'яднання.**

(Працяг на 6-й стар.)

# ПРАЦАВАЦЬ ПААСОБКУ, АБМЯРКОЎВАЦЬ РАЗАМ

**(Працяг. Пачатак на 3-й – 5-й стар.)**

Найперш, хачу перадаць удзельнікам семінара шчырае прывітанне ад прафесара Адама Мальдзіса.

Што да беларускага краязнаўства, то яно мае багатую гісторыю. Асаблівы размах атрымала ў сярэдзіне 20-х гадоў, падчас шырокай плыні Адраджэння. На жаль, той перыяд быў вельмі кароткім. І тым не менш, надрукаваны вядомыя сёння кнігі, напрыклад, М.Каспяровіча, М.Улашчыка і іншых. Увогуле, гэта вялікая, доўгая і надзвычай цікавая размова. Курс "Краязнаўства" я чытаю ў Беларускім інстытуце культуры. Лічу, што гэта не толькі навука аб роднай зямлі, "малой Радзіме", гэта стан душы кожнага чалавека.

Выдатна, што ў апошняе дзесяцігоддзе назіраецца шырокі ўздым краязнаўчай работы. У гэтым кірунку выдадзена нямала карыснай літаратуры: адпаведныя артыкулы ў Беларускай Энцыклапедыі, Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, серыя гісторыка-дакументальных хронік "Памяць", дзесяткі кніг вучоных, гісторыкаў і краязнаўцаў.

Асобнае месца займаюць рэгіянальныя выданні. Напрыклад, "Браслаўскія сшыткі", "Тураўскі зборнік", "Магілёўская даўніна", "Віцебскі сшытак", часопіс "Куфэрак Віленшчыны", "Краязнаўчыя запіскі", "Людзі культуры Гродзеншчыны" Аляксея Пяткевіча, зборнікі "Загароддзе"…

Нельга не ўзгадаць шматлікія бюлетэні. На Гродзеншчыне іх таксама нямала. Вось, бачу, чарговыя нумары "Краязнаўчай газеты", ваўкавыскі "Краязнаўца", гродзенскі "Дзядзінец". Хаця стан і змест перыядычнага мясцовага "малога" друку – гэта асобная тэма.

Мяркую, што сустрэча краязнаўцаў Гродзеншчыны ў Лідзе прынясе добры плён. Якім быць тутэйшаму краязнаўству залежыць толькі ад актыўнасці і намаганняў прысутных. Аднак пошукавая дзейнасць усіх і кожнага павінна быць сканцэнтравана ў адпаведнай арганізацыі накшталт Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Бо ўзнікаюць праблемы з друкам уласных допісаў, неабходнасцю скаардынаваць доследы, нарэшце, проста падзяліцца думкамі з калегамі, вызначыцца тэматычна. Грамадой любая справа вырашаецца.

**Віталь Скалабан,**
**намеснік дырэктара культурна-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны.**
**г. Мінск.**

# ВЫВУЧАЕМ МІНУЛАЕ ДЛЯ БУДУЧЫНІ

Кожны з краязнаўцаў вывучае тое, што яму па душы. Праект "Знакамітыя людзі Лідчыны" – добрая справа. Аднак малавядомыя асобы нібыта зноў па-за ўвагай. Напрыклад, хто ведае нешта пра былога дыпламата Мацея Доўгаля, або адметныя ў мінулым мясціны? Я, напрыклад, збіраю інфармацыю для альбома "Землякоў забытыя імёны".

Зноў жа, мала каму вядома, што адна з першых рускіх паветраплавальных баз у 1907 годзе была размешчана па загаду брата цара Мікалая II менавіта каля нашай Ліды. Шукаю звесткі пра гэты ваенны аэрадром.

Добрую памяць аб сабе пакінулі вадзяныя млыны. Пакрыху назапашваецца матэрыял. Гэта, лічу, важна. Свет быў да нас, будзе і пасля. Аднак без краязнаўцаў страцяцца важныя рысы і прыкметы рэальнага жыцця. Мы вывучаем мінулае продкаў і перадаём веды нашчадкам. Калісьці нехта будзе вывучаць наш час. Атрымліваецца, што, дапамагаючы адзін аднаму, мы ствараем гісторыю роднай зямлі.

**Антон Савук,**
**супрацоўнік часопіса "Лідскі летапісец", інжынер.**

# ГУРТУЮЦЦА ВАКОЛ МУЗЕЯЎ

Навагрудак даўно вядомы як горад са старажытнай гісторыяй. Тут рэгулярна праводзяцца "Навагрудскія чытанні". Праведзены ўжо сёмыя па ліку. Больш сціпла праходзяць мясцовыя краязнаўчыя мерапрыемствы. Летась адбылася чарговая сустрэча прыхільнікаў пошукавай работы. Былі цікавыя паведамленні, асабліва па тапаніміцы. Лепшыя выступленні хочам надрукаваць асобнай брашурай.

У студзені бягучага года праведзены школьны краязнаўчы конкурс. Арганізатарамі выступілі Дом-музей Адама Міцкевіча, гісторыка-краязнаўчы музей і раённая газета "Новае жыццё". Удзельнікам было прапанавана адказаць на 28 зусім няпростых пытанняў. Пераможцы атрымалі падарункі.

Мы выдаем бюлетэнь "Музейны веснік" накладам 20-30 экземпляраў. Змяшчаем артыкулы, прысвечаныя музеязнаўству, адлюстроўваем музейныя падзеі, друкуем краязнаўчыя звесткі, інфармуем аб дзейнасці музеяў.

Так атрымалася, што краязнаўцы горада і раёна гуртуюцца вакол двух гарадскіх музеяў. Яны сталі аб'ядноўваючым цэнтрам.

**Мікалай Гайба,**
**дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча.**
**г. Навагрудак**

# НАПІШАМ "ЭНЦЫКЛАПЕДЫЮ ЛІДЧЫНЫ"!

Краязнаўства – з'ява вечная. Людзі заўсёды будуць імкнуцца ведаць больш пра мінулае. Значыць, будуць збіраць матэрыялы, як гэта сёння робім мы, вывучаючы матэрыяльную і духоўную культуру. Гэтай працы хопіць усім нам надоўга. Будуць дзівосныя адкрыцці і знаходкі.

Нядаўна краязнаўцы Лаўрыш і Бурачкоўскі знайшлі старажытны сонечны гадзіннік. У Еўропе засталіся лічаныя адзінкі такіх помнікаў. Розгалас быў ва ўсіх газетах. А ці могуць пахваліцца іншыя гарады Беларусі дамамі, ў якіх адна сцяна каменная, іншыя – драўляныя? Такіх старавечных пабудоў у Лідзе амаль 30. Калісьці нашы продкі такім чынам берaглі сваё жытло ад пажараў. Мы зрабілі апісанне муроў, зрабілі фотаздымкі.

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й – 6-й стар.)

Альбо такое. Вядома месца, дзе Вітаўт і Ягайла праводзілі перамовы. Гістарычны факт, аднак несвядомыя грамадзяне пакрыху пачалі браць жвір, і каб лідскія краязнаўцы не прынялі захады, то помная мясціна ўжо не існавала б.

Мы з году ў год збіраем звесткі пра людзей, якія маюць дачыненне да Лідчыны. Апрацоўваем архіўныя матэрыялы, друкуем у газетах. А знайсці работу вучонага Ф. Янкоўскага аб асаблівасцях лідскіх гаворак не можам, хаця праца напісана параўнальна нядаўна.

Стратэгічным шляхам развіцця краязнаўства на Лідчыне лічу абавязковае абнародаванне сабранага матэрыялу. Для гэта ёсць умовы – бюлетэні, перыядычны часопіс "Лідскі летапісец". Неабходна дамагчыся, каб у поўную моц запрацаваў гарадскі музей. Чаму там не стварыць вялікую літаратурную экспазіцыю? Гэта ў горшым выпадку, у лепшым – трэба мець асобны літаратурны музей. Наспеў час сабраць рабочыя групы і нароўні са зборам матэрыялаў апрацоўваць тое, што ўжо ёсць. Такім чынам праз год-два мы выканаем задумку – падрыхтуем да выдання кнігу "Энцыклапедыя Лідчыны".

**Станіслаў Суднік,**
**рэдактар газеты "Наша слова", краязнаўца.**

# САМЫ КАРОТКІ ШЛЯХ ДА САМОГА СЯБЕ

Выпускнікі беларускіх школ нашых дзён не набываюць навыкаў па самапазнанні і самаўдасканаленні. Гэта сур'ёзны недахоп сістэмы адукацыі. Мой уласны амаль дзесяцігадовы вопыт краязнаўчай работы з вучнямі 8-11 класаў сведчыць, што найбольш аптымальным сродкам на шляху самапазнання з'яўляецца менавіта краязнаўства. Толькі спасцігнуўшы ўласныя карані, чалавек здольны знайсці сваё месца ў жыцці.

Школьнае краязнаўства ўяўляюць комплексным даследаваннем краю як нейкай цэласнасці. Магчымы варыянты, напрыклад, вывучэнне культуры ці прыроды. Методыка краязнаўчай працы на ўроках і пазаўрочны час разглядаецца на прыкладах вывучэння асобных помнікаў культуры Гарадзеншчыны. Гэтым дасягаецца ўсебаковае развіццё школьнікаў і далучэнне іх да даследчай работы. Метадычнай асновай такіх заняткаў з'яўляецца інтаграваны падыход да з'яваў культуры, яе помнікаў. Таму пачынаць краязнаўчую работу трэба са знаёмствам з асновамі разнастайных дапаможных дысцыплінаў – крыніцазнаўства, храналогія, палеаграфія, тапаніміка, геральдыка, генеалогія і інш. Добрымі дапаможнікамі для настаўнікаў гісторыі, геаграфіі, беларускай мовы і літаратуры, спецкурсаў служаць метадычныя рэкамендацыі і памяткі.

Эфектыўнае засваенне пазнавальнай прасторы існуе толькі ў рэжыме дыялогу. Ёсць розныя спосабы перадачы краязнаўчых ведаў. Яны дапамагаюць вучням авалодаць прынцыпамі навуковых даследаванняў – у праявах рэчаіснасці няма дробязяў, тут усё істотна, любая з'ява павінна разглядацца ўсебакова, з розных пунктаў гледжання; давер толькі першакрыніцы.

Вучні вядуць асабістыя дзённікі, занатоўваюць падзеі, вучацца працаваць з пісьмовымі крыніцамі, у прыватнасці, летапісамі, даведнікамі, тлумачальнымі слоўнікамі. Гэта дапамагае выканаць заданне: стварыць уласны радавод і тапанімію свайго асяроддзя, распрацаваць сямейны летапіс, стварыць уласны радавы герб.

Важны напрамак краязнаўчай працы як адкрытай сістэмы – так званая тапанімічная разведка. Па спецыяльна распрацаванай тапанімічнай схеме вучні праводзяць апытанні мясцовага насельніцтва і даведваюцца аб іхнім уяўленні тых ці іншых тапонімаў, запісваючы адказы слова ў слова, каб зафіксаваць асаблівасці гаворкі.

Методыка работы са школьнікамі дазваляе апошнім праз пэўны час паспрабаваць прачытаць герб аднаго з населеных пунктаў Гарадзеншчыны, якія меў Магдэбургскае права. Для гэтага трэба мець добрую падрыхтоўку.

**Алесь Госцеў,**
**старшыня Гродзенскага Школьнага краязнаўчага таварыства.**

# АД АФГАНІСТАНА – ДА БОГА

Лідскі фотамайстар Ігар Пешахонаў у свой час прайшоў школу воіна-інтэрнацыяналіста ў Афганістане. Магчыма пагэтаму жыццёвыя шляхі прывялі яго да Бога. "Час збіраць камяні" – так называлася першая частка ягонага праекта "Лідчына мінулага стагоддзя", на якой былі прадстаўлены мастацкія здымкі ўсіх хрысціянскіх храмаў Ліды і раёна.




Гледачы пабачылі каля ста вобразаў цэркваў, касцёлаў, капліцаў, малельных дамоў праваслаўнага, каталіцкага, пратэстанцкага веравызнанняў. Побач – нямыя сведчанні людскога вандалізму і паганства: разламаныя крыжы, непатрэбныя надпісы на святых сценах, пакалечаныя магілы, пабітыя выявы Хрыста…

Сёлета Ігар Пешахонаў плануе стварыць другую частку свайго праекта – фотавыстаўку "Стваральнікі". Мастак хоча адлюстраваць на палотнах асобы, імёнамі якіх дагэтуль ганарыцца лідская зямля. Засталося нямала пабудоў мінулага. Усё гэта не павінна бясследна знікнуць.

Ігар Пешахонаў прапанаваў частку сваіх работ увазе ўдзельнікаў адукацыйнага семінара. Аўтар паведаміў, што працуе над здымкамі новай серыі "Шляхецкія сядзібы Лідчыны". Задуманы праект "Лідчына мінулых стагоддзяў".

**Антон Лабовіч**

**на здымку: Лідскі замак вачыма фотамайстра Ігара Пешахонава (http://www.peshekhonov.itgo.com/zamok.htm)**

# ХТО АЎТАР НАСТУПНАЙ БРАШУРЫ?

Астравецкі райвыканкам і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Беларусі надрукавалі даведачнае выданне Веры Тумаш “Культура зямлі Астравецкай. Асобы і творы”.




У брашуры распавядаецца пра вядомых асобаў – выхадцаў з Астравеччыны. Беларускі графік Віктар Александровіч, кампазітар і паэт Аляксандр Альховік, польскі і англійскі мастак Мар’ян Богуш-Шышка; драматург і каталіцкі святар Янка Быліна (Іван Семашкевіч), скульптар Міхал Валуевіч, мастакі Тэрэса Врановіч і Сцяпан Казлоўскі; рускі вучоны, падарожнік, дыпламат Іосіф Гашкевіч, беларускі, польскі і рускі мастак Леў Дабжынскі, жывапісец, скульптар, педагог Алег Драбышэўскі, яўрэйскі і амерыканскі пісьменнік Менке Кац, вучоны-асветнік Адольф Клімовіч, літоўская мастачка Бірутэ Куцкайтэ, вучоны і пісьменнік Адам Мальдзіс, гонар беларускай культуры Казімір Сваяк і Альбін Стаповіч…

Біяграфічныя дадзеныя гэтых людзей сведчаць, што любоў да культурных і архітэктурных традыцый, маляўнічых краявідаў роднай зямлі творыць цуды, надае сілы і моц уласнаму таленту. Шматэтнічны і шматкультурны Астравецкі раён спрыяе гэтаму.

Краязнаўцам Гродзеншчыны трэба звярнуць увагу на выданне. Хто ведае, можа нехта прапануе сваю тэму, дастойную ўвасаблення ў новым рэгіянальным зборнічку.

**Уладзімір Кавалёў**

# ЖЫВЕ Ў НАШЫМ ГОРАДЗЕ…

Вера Сцяпанаўна Тумаш нарадзілася ў г.п. Свір Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Потым жыла з сям’ёй у вёсцы Малінавая Смаргонскага раёна. У 1945 годзе на адным тыдні памерлі ад тыфу бацькі, бабуля і родная цётка. Сіротамі засталіся шэсць дзяцей, якіх ўзялі на выхаванне родныя.

Веру гадавала цётка. У тры гады з дзяўчынкай здарылася няшчасце. Інваліднасць засталася назаўсёды. Закончыла сем класаў Спяглiцкай няпоўнай сярэдняй школы. Затым быў Даўгінаўскі дзіцячы дом. 9-10-я класы закончыла ў Ашмянскім дзіцячым доме.

У 1959 годзе паступіла ў Мінскі бібліятэчны тэхнікум. Па заканчэнні яго працавала ў Чашніцкім раёне. У 1963 годзе пераехала ў Ашмяны. Неўзабаве была прызначана загадчыцай дзіцячай раённай бібліятэкі. Завочна закончыла Мінскі педагагічны інстытут.

У пачатку 80-х гадоў узначаліла цэнтральную бібліятэчную сістэму. Дырэктарам працавала амаль да 2000 года. Па стану здароўя папрасіла перавесці на іншую пасаду.

Усё жыццё Вера Сцяпанаўна прысвяціла бібліятэчнай справе. Па яе прапанове ў цэнтральнай бібліятэцы была створана краязнаўчая гасцёўня. Вера Тумаш шмат збірала матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці нашых славутых землякоў – І.Гашкевіча, А.Мальдзіса, К.Сваяка, Я.Быліны. Арганізоўвала цікавыя сустрэчы з мясцовымі паэтамі, наладжвала прэзентацыі іх новых кніг.

Яна прымала ўдзел у Міжнароднай навуковай канферэнцыі “Рым-4”, прысвечанай ўзаемадзеянню нацыянальных і рэгіянальных культур Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Яе выступленне “На скрыжаванні розных уплываў” змешчана ў кнізе “Беларусіка. Кн.3-я. Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне” (Рэд. А.Мальдзіс і інш., Мн., Навука і тэхніка, 1994, с.200-203).

Матэрыялы пра І.А.Гашкевіча “Па слядах беларускага Адысея” былі надрукаваны ў газеце “Астравецкая праўда”.

**Яніна Мяшкова,**
**дырэктар Астравецкай**
**раённай бібліятэкі.**

# ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ

14 снежня 2000 года гісторыка-культурны клуб “Паходня” разам з абласной асацыяцыяй ахвяраў палітычных рэпрэсій арганізавалі прэзентацыю кнігі “Ніколі болей”. Гэта найперш вынік працы старшыні гарадской арганізацыі БСДП “НГ” М.Патрэбы.

Ён паведаміў прысутным, што далёка не ўсе ахвяры нечалавечай сталінскай палітыкі і жудасных здзекаў пагадзіліся на запіс уласных успамінаў. Іншыя аўтары не дажылі да дня выхаду кнігі з друку.

Сведкі трагічных падзей Віктар Данілаў, Андрэй Фірсаў, Павел Жук, Іна Карпюк і іншыя падзяліліся ўспамінамі.

Прысутныя падтрымалі прапанову стварыць грамадскі камітэт памяці ахвяраў рэпрэсій, распачаць збор сродкаў для ўзвядзення ў Гродне помніка бязвінна пацярпелым у 20-х – 80-х гадах.

Жадаючым набыць кнігу “Ніколі болей” просім звяртацца да Міхаіла Патрэбы (тэл. 5-26-05) ці Паўла Жука (тэл. 31-39-33).

**А.Діснёнак**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»
Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22. Будзённага, 48-а,
Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Арашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі
Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб’яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб’яднання "Ратуша"